❑ *Трынаццаць дзяцей дашкольнага ўзросту аказаліся заложнікамі тэрарыста з узрыўчаткай.*
1-я стар.

❑ *Журналісцкае расследаванне: для Мінскага анкалагічнага дыспансера існуе пагроза страты самастойнасці.*
3-я стар.

❑ *Крымінал: прадпрымальнік за паўтары хвіліны забіў траіх сваіх крыўдзіцеляў.*
4-я стар.

# ЗВЯЗДА

12 чэрвеня 1996 г. серада, № 147 (22950)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

*РЭПАРТАЖ З МЕСЦА ЗДАРЭННЯ*

## ТАКОГА МІНСК НЕ ПАМЯТАЕ: У ЦЭНТРЫ СТАЛІЦЫ ЗАЛОЖНІКАМІ ТЭРАРЫСТА СТАЛІ ДЗЕЦІ

**Учора, прыкладна а дзевятай гадзіне раніцы, у адну з груп дзіцячага садка № 511, што размешчаны ў Мінску па вуліцы Чарвякова, уварваўся мужчына гадоў сарака. Ён заявіў, што ў сумцы мае ўзрыўное ўстройства. Заложнікамі аказаліся 13 дзяцей ва ўзросце 5-6 гадоў. З імі засталася выхавальніца.**

Я на месца трагедыі трапіў амаль выпадкова. Знаёмы мастак непакоіўся за сваё дзіця: патэлефанавала жонка і паведаміла, што каля садка побач з іх домам шмат міліцыі, пажарныя. Кажуць, тэрарысты ўзялі заложнікаў. Тэлефаную ў аддзел міліцыі Цэнтральнага раёна, дзе інфармацыю невыразна пацвердзілі. Каля адзінаццаці гадзін быў на Чарвякова. Сапраўды, шмат міліцыі, прадстаўнікі КДБ, службы аховы Прэзідэнта, вайскоўцы.

— Што здарылася? — пытаю ў мужчын.

— Перапытайце вунь у жанчыны. Там яе дзіця.

Я і сам разумеў, звяртаючыся да яе, што жанчыне не да мяне. І не здзівіўся маўклівым слязам няшчаснай кабеты ў адказ. Пакрыху дэталі складваліся ў цэласную карціну. Нянечка — Ганна Мікалаеўна (прозвішча называць не захацела) — паведаміла, што дзеці якраз снедалі, калі ўварваўся тэрарыст.

— Ён ненармальны?

— Не ведаю. Але рукі дрыжалі, — яшчэ пад уражаннем перажытага скупа адказала маладая жанчына.

Дарослых тэрарыст выпусціў. Групу дзяцей, якая знаходзілася на другім паверсе, пакінуў. Мужчына запатрабаваў прадстаўнікоў улады і журналістаў. Пасля гэтага адпусціў адно дзіця. Прыбыў мэр горада Уладзімір Ярмошын. Што ж датычыцца журналістаў, то нашу функцыю выконвалі двое супрацоўнікаў спецпадраздзяленняў і спецыяліст, які павінен быў вызначыць наяўнасць узрыўнога ўстройства. На другім паверсе ішлі перамовы, у тэрарыста бралі «інтэрв'ю». А да сцен садка прыстаўляліся адмысловыя лесвіцы.

— Цішэй, цішэй, — чулася ад аднаго з кіраўнікоў аперацыі.

Дужыя хлопцы ў цывільным сталі на лесвіцы, а выхавальніца праз акно перадала не ўсё разумеючых дзяцей. Вось на волі аказалася і яна. І тут шум разбітай шыбы, стрэл. Ужо потым стала вядома, што праз акно выкінулі сумку. Стралялі ў тэрарыста. «Мёртвы ён ці паранены?» — пытаемся ў міліцыянераў. Адказу няма. Пасля злачынцу вывезла «хуткая дапамога». Кажуць, адразу жыў, але хутка сканаў.

Зацішша. Здаецца, усё скончылася. Было каля гадзіны.

Толкам пра злачынцу ніхто нічога не расказвае, хаця інфармацыя прасачылася. Тэрарыст — Аляксандр Зелянкоў. Некалі служыў у спецвойсках Савецкай Арміі. Адбываў тэрмін зняволення. Лячыўся ў рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы «Навінкі», дыягназ — «хранічны алкагалізм з дэградацыяй асобы». Па словах медыкаў, такія людзі здольныя на любы неверагодны па жудасці ўчынак. Зелянкоў патрабаваў разабрацца з «несправядлівасцю» аднаго з супрацоўнікаў праваахоўных органаў у дачыненні да сваёй асобы.

Цела тэрарыста адвезлі, але гэта яшчэ быў не канец. Міліцыя заклікала людзей адысці, схавацца ў кватэрах і пазачыняць вокны. Пачалося абясшкоджанне ўзрыўнога ўстройства. Дарэчы, па некаторых звестках, яно было магутным. І пры несчаслівым выпадку ад садка не засталося б і месца. Сапёры працавалі да абеду.

Дзякаваць Богу, абышлося без ахвяр. Пачуў і такое: міліцыя выехала не адразу. Меркавалі, што нехта «жартуе». Але нават калі гэта так, не будзем іх крытыкаваць. Станоўчы вынік скасоўвае ўсё. Толькі не ўзнікшыя пытанні. Няўжо да кожнага садка ці школы трэба прыставіць ахоўнікаў? І як пракантраляваць вар'ятаў, для якіх людзі — «кузуркі»? Заўтра іх заложнікамі можа стаць кожны з нас. І дзе гарантыя, што ўсё абыдзецца, як учора...

**Міхась ТАЛОЧКА.**



**Заўзята клічуць з рэкламаў Кіпр, Гаваі і ўсе астатнія «Сочы». А можа, лепей да ціхай рачулкі ў матчыным краі?**

**Фота Уладзіміра БАТАЛІНА.**

ПАСТАНОВА
КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 372

### АБ ВЫПУСКУ, АБАРАЧЭННІ І ПАГАШЭННІ ЖЫЛЛЁВЫХ АБЛІГАЦЫЙ

У мэтах расшырэння магчымасцей выкарыстання розных пазабюджэтных крыніц фінансавання жыллёвага будаўніцтва Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб выпуску, абарачэнні і пагашэнні жыллёвых аблігацый.

2. Гэта пастанова ўступае ў сілу з моманту яе апублікавання.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

6 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.

*Адпаведныя палажэнні друкуюцца ў наступным нумары.*

## ЧАРГОВЫЯ СТАНЦЫІ МЕТРО АДКРЫЮЦЬ ПАД НОВЫ, 1997 ГОД

**Чарговыя станцыі аўтазаводскай лініі метро плануецца адкрыць у 1997 годзе.**

Як адзначыў намеснік старшыні Мінгарвыканкома Пётр Сямашка, хаця 3 ліпеня і вельмі добрае свята, здача ў эксплуатацыю станцый «Партызанская», «Аўтазаводская» і іншых адбудзецца, хутчэй за ўсё, у снежні бягучага года. Вынік паспешных работ добра бачны на станцыі «Маладзёжная», дзе ўжо неабходны рамонт. Будаўнікі абвінавачваюцца ў недабраякасным выкананні работ. Аднак, па меркаванню аднаго з працаўнікоў, які ўдзельнічаў у будаўніцтве, якасна іх выканаць было немагчыма з-за пераносу тэрмінаў. У прыватнасці, аддзелка наносілася на сырыя сцены, у той час як трэба было даць ім прасохнуць не менш як два тыдні.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*




11 чэрвеня прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі прынялі ўдзел у адкрыцці міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «Белагра-96».

**На здымку:** У час адкрыцця выстаўкі.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.**

## У БЕЛАРУСІ ЗНІЖАЕЦЦА АБ'ЁМ ЗДАБЫЧЫ НАФТЫ

Здабыча беларускай нафты за пяць месяцаў гэтага года склала 775.986 тон, ці 96,2 працэнта ад здабытай за аналагічны перыяд 1995 года.

Як паведамілі БелаПАН у канцэрне «Белнафтапрадукт», зніжэнне аб'ёмаў здабычы нафты адбываецца планава. Паводле прагнозаў спецыялістаў, сёлета вытворчым аб'яднаннем «Беларусьнафта» будзе здабыта 1 мільён 858 тысяч тон (у 1995 годзе гэтая лічба складала 1 мільён 932 тысячы). Сярод асноўных прычын чакаемага зніжэння гадавой здабычы нафты адзначаюцца: высокая (да 80 працэнтаў) абводненасць здабываемай прадукцыі на асноўных распрацоўваемых радовішчах, доля якіх у агульнай здабычы складае каля 70 працэнтаў; складаная геалагічная будова; вялікія глыбіні залягання; выкарыстанне ў нафтаразведцы і нафтаздабычы зношанай тэхнікі і маральна састарэлых тэхналогій.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

## ВЕСНАВЫ ПРЫЗЫЎ: БЫЦЬ САЛДАТАМ ЦІ СТУДЭНТАМ

У рэспубліцы працягваецца прызыў у рады беларускіх Узброеных Сіл.

Як нам паведамілі ў арганізацыйна-мабілізацыйным упраўленні Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, у цяперашняй прызыўной кампаніі ёсць адно значнае адрозненне ад папярэдніх. Згодна з указам Прэзідэнта Беларусі, прызыўнікі, якія закончылі ў бягучым годзе навучанне на падрыхтоўчых аддзяленнях ВНУ, атрымліваюць магчымасць паспытаць шчасця пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Тыя з іх, каму не ўдасца стаць студэнтамі, з 10 па 20 жніўня будуць накіраваны ў часці для праходжання вайсковай службы.

Гэтае палажэнне прынята з улікам пажаданняў прызыўнікоў і іх бацькоў.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

УКАЗ
ПРЭЗІДЭНТА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 211

### Аб прысваенні групе работнікаў Мінскага трактарнага завода імя У.І.Леніна ганаровага звання «Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь»

За значны ўклад у развіццё трактарабудавання, шматгадовую плённую працу прысвоіць ганаровае званне «Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь»:

АСТАПЕНКУ Віктару Андрэевічу—начальніку сталеліцейнага цэха

БАБІНІЧУ Яўгенію Іванавічу—старшаму майстру корпуса зборкі трактароў

ДЗЕГЦЯРОВУ Уладзіміру Савельевічу—начальніку праектна-тэхналагічнага бюро аддзела галоўнага металурга

ДЗЯЛЕНДЗІКУ Уладзіміру Мікалаевічу—начальніку механічнага цэха № 2

ЗУБОВІЧУ Уладзіміру Вітольдавічу—начальніку канструктарскага бюро аддзела галоўнага тэхнолага

ПУЗЫРОВУ Міхаілу Іванавічу—слесару механазборачных работ эксперыментальнага цэха

СКОБАВУ Уладзіміру Васільевічу—брыгадзіру мантажнікаў цэха тэхналагічнага абсталявання

ХМЯЛЕЎСКАМУ Уладзіміру Сяргеевічу—старшаму майстру цэха кабін

ШАПЕЦЬКУ Віктару Васільевічу—наладчыку аўтаматычных ліній і агрэгатных станкоў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*10 чэрвеня 1996 г.*
*г. Мінск.*

## «ПРЫ ЛЮБОЙ СІТУАЦЫІ ІНТЭГРАЦЫЙНЫЯ ПРАЦЭСЫ ПАВІННЫ ІСЦІ»

Старшыня Міждзяржаўнага савета Расіі, Беларусі, Казахстана і Кыргызстана Аляксандр Лукашэнка 11 чэрвеня сустрэўся са старшынёй Інтэграцыйнага камітэта гэтых краін, першым намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Казахстан Нігматжанам Ісінгарыным.

Шмат увагі ў ходзе гутаркі было ўдзелена пытанням практычнага ўвасаблення ідэй чатырохбаковага дагавора аб паглыбленні інтэграцыі. «Мы павінны зрабіць усё, каб гэты дагавор не паўтарыў лёсу многіх дакументаў, прынятых у СНД», — сказаў, каменціруючы вынікі сустрэчы, Н.Ісінгарын.

Зыходзячы з гэтага, падкрэсліў ён, складзены і сёння ўзгоднены папярэдні парадак дня першага рабочага пасяджэння Інтэграцыйнага камітэта, якое адбудзецца 26 ліпеня, і пасяджэння Міждзяржаўнага савета, намечанага на кастрычнік. «Асноўная задача, якую мы перад сабой паставілі, — стварыць спрыяльныя ўмовы для развіцця інтэграцыйных працэсаў», — падкрэсліў старшыня Інтэграцыйнага камітэта.



Ён звярнуў увагу на важнасць аднаўлення ўнутранага рынку і знішчэнне перашкод на шляху да яго, давядзенне да лагічнага канца рашэнняў, звязаных з мытным саюзам.

Так, паводле інфармацыі Нігматжана Ісінгарына, ліквідацыя з канца мінулага года мытных пошлін ужо дала плён. У прыватнасці, Казахстан павялічыў за год тавараабарот з Беларуссю на 35 працэнтаў, з Расіяй — на 45.

Гаворачы аб перспектывах «саюза чатырох» пасля 16 чэрвеня, Н.Ісінгарын адзначыў, што пры любой сітуацыі інтэграцыйныя працэсы павінны ісці. Пры гэтым ён лічыць, што «лагічна паступальна ісці па шляху да цеснага саюза суверэнных дзяржаў. Калі мы будзем спрабаваць зноў уваходзіць у нейкую новую федэратыўную ці канфедэратыўную саюзную дзяржаву, то гэта ўжо будзе рух назад».

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў пастанавіў зацвердзіць і ўвесці ў дзеянне з 1 жніўня 1996 года прыкладаемыя Палажэнне аб парадку правядзення дзяржаўнай экспертызы і зацвярджэння горадабудаўнічых праектаў і Палажэнне аб парадку правядзення дзяржаўнай экспертызы і зацвярджэння архітэктурных і будаўнічых праектаў.

Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва прынятай пастановай даручана распрацаваць і зацвердзіць ва ўстаноўленым парадку нарматыўныя акты, што рэгламентуюць састаў, парадак распрацоўкі і ўзгаднення горадабудаўнічых, архітэктурных і будаўнічых праектаў, і давесці іх да ведама зацікаўленых; распрацаваць і зацвердзіць парадак атрымання заказчыкамі дазволаў на працяг распрацоўкі, узгадненне, праходжанне дзяржаўнай экспертызы і зацвярджэнне праектнай дакументацыі, выкананне якой пачата да 1 жніўня 1996 года на падставе заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў, што дзейнічалі на момант пачатку праектавання, з улікам фактычна зробленых затрат на праектныя работы.

Міністэрству эканомікі сумесна з Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва, іншымі зацікаўленымі даручана:

унесці ў кастрычніку 1996 года ў Кабінет Міністраў прапановы па ўдакладненню парадку правядзення дзяржаўнай экспертызы і зацвярджэння інвестыцыйных праектаў і праграм, устаноўленага пастановай Кабінета Міністраў ад 30 лістапада 1995 г. № 651;

распрацаваць і зацвердзіць у І квартале 1997 года ва ўстаноўленым парадку нарматыўны акт, што рэгламентуе састаў, парадак распрацоўкі і ўзгаднення тэхніка-эканамічных абгрунтаванняў інвестыцыйных праектаў.

Пастановай устаноўлена, што зацвярджэнне горадабудаўнічых, архітэктурных і будаўнічых праектаў без праходжання дзяржаўнай экспертызы не дапускаецца.

Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва сумесна з Міністэрствам юстыцыі ў І квартале 1997 года даручана прадставіць у Кабінет Міністраў прапановы па ўнясенню ў заканадаўства змяненняў, што вынікаюць з гэтай пастановы.

Прызнаны страціўшымі сілу: Пастанова Савета Міністраў БССР ад 19 жніўня 1986 г. № 255 «Аб парадку зацвярджэння генеральных планаў гарадоў і іншых населеных пунктаў Беларускай ССР»; пункт 1.2 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29 лістапада 1991 г. № 451 «Аб парадку зацвярджэння інвестыцыйных праектаў у капітальным будаўніцтве».

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прынятай пастановай зацвердзіў бюджэт Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці на 1996 год па даходах у суме 753.495,6 млн. рублёў і па расходах — у суме 753.495,6 млн. рублёў згодна з дадаткамі 1 і 2.

Гэтай жа пастановай зацверджана справаздача аб выкананні бюджэту Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці за 1995 год па даходах у суме 409.274,7 млн. рублёў і па расходах — у суме 409.274,7 млн. рублёў згодна з дадаткамі 3 і 4.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

*ГРОШЫ*

## «ЧОРНЫ РЫНАК» СУПРАЦЬ БАНКАЎ: ХТО КАГО?..

Імкненне «застапарыць» сёння курс валюты на пэўнай адзнацы і забяспечыць усіх жадаючых грамадзян замежнымі грашовымі знакамі пакуль уяўляецца далёкім ад рэальнасці.

Нягледзячы на прыярытэтныя ўмовы, якія дадзены некаторым банкам на скупку і продаж тых жа долараў, наўрад ці кожны кліент гэтых банкаў зможа абмяняць беларускія рублі на валюту.Чэргі ля абменных пунктаў такіх банкаў за пакупкай цвёрда канверсоўнай «млеюць» ад чакання, калі хто-ніхто здасць валюту, каб потым яе купіць. Праверана на практыцы. Дарэчы, на Міжбанкаўскай валютнай біржы попыт на валюту таксама намнога перавышае прапанаванне. У той жа панядзелак розніца паміж імі на таргах па долару адрознівалася больш чым у два разы.

Такім чынам, зняць дэфіцыт па такому своеасабліваму тавару пакуль не ўдаецца. Бадай, самымі прыстасаванымі да такіх умоў зараз аказаліся валютчыкі. Хутка адрэагаваўшы на змену ў гандлі валютай пяці банкаў рэспублікі, хлопцы, якія літаральна акупіравалі пляцоўкі ля абменных пунктаў, скупляюць яе па большаму курсу, чым могуць прапанаваць кліентам банкіры. Сёння курс іх скупкі складае каля 15 тысяч рублёў за долар. Прадаюцца ж імі долары неахвотна, па 16 тысяч рублёў (16.200 на ўчарашнюю раніцу). Прычым рэальны продаж долара, да якога «паабяцалі» дайсці ў аўторак валютчыкі, складзе дзесьці каля 17 тысяч рублёў. Што датычыцца банкаў, якім так і не дазволена працаваць на ўмовах дылінгавай прэміі і дылінгавага збору, то там наогул жыццё застыла: каго цікавіць партнёрства з камерцыйнымі ўстановамі, дзе курс намнога ніжэйшы?

Што больш за ўсё ўражвае ў такой сітуацыі, дык гэта той факт, які сведчыць аб легалізацыі работы валютчыкаў. Як бы там ні было, але трэба прызнаць, што «чорны рынак» наяўнай валюты сёння стымулюецца. Стымулюецца тымі ўмовамі, якія складваюцца дзякуючы таму, што банкіраў «зрэзалі» на ляту тым жа абмежаваннем па курсах: ім застаецца толькі сачыць за развіццём падзей. А «чорны рынак», між тым, квітнее.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПАДПІСКА ХУТКА ЗАВЕРШЫЦЦА

Падведзены папярэднія вынікі падпіскі на рэспубліканскія перыядычныя выданні па стану на 5 чэрвеня. Трэба адзначыць, што пакуль прыхільнікі і падпісчыкі розных выданняў не спяшаюцца з афармленнем падпіскі на газеты на трэці квартал бягучага года. Аднак яшчэ застаецца некалькі дзён, таму мы спадзяёмся, што многія яшчэ зробяць свой выбар. На 5-е ж чысло вынікі наступныя:

**«Звязда» — 46.424**
«Народная газета» — 115.543
«Сов. Белоруссия» — 104.493
«Рэспубліка» — 52.224
«Белорусская нива» — 48.262
«Чырвоная змена» — 26.329
«Знамя юности» — 8502
«7 дней» — 39.545

**Ігар РЫГОРАЎ.**

## І Ў БЕЛАРУСІ Ў РАСІЯН БУДЗЕ МАГЧЫМАСЦЬ ПАЎПЛЫВАЦЬ НА ДАЛЕЙШЫ ЛЁС СВАЁЙ РАДЗІМЫ

**Не застануцца ўбаку ад лёсаноснай для Расійскай Федэрацыі падзеі — выбараў прэзідэнта краіны — расійскія грамадзяне, якія пражываюць на тэрыторыі нашай рэспублікі.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня створанай у пасольстве Расіі ў Мінску выбарчай камісіі Павел Шастапалаў, каля 4,5 тысячы грамадзян суседняй краіны, якія пражываюць цяпер у Беларусі, змогуць прыняць удзел у галасаванні ў час выбараў прэзідэнта Расійскай Федэрацыі 16 чэрвеня. Галасаванне будзе праходзіць з 8 да 20 гадзін.

Паводле слоў старшыні камісіі, галоўны выбарчы ўчастак будзе знаходзіцца непасрэдна ў пасольстве. Акрамя яго, на тэрыторыі Беларусі будзе яшчэ пяць месцаў, дзе расійскія грамадзяне змогуць аддаць свае галасы за аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты.

Урны для галасавання будуць устаноўлены ў Генеральным консульстве Расіі ў Брэсце, а таксама ў вайсковых часцях у Быхаве, Клецку, Лідзе і Мазыры. П. Шастапалаў лічыць, што на выбарчыя ўчасткі прыйдуць і расіяне з адмацавальнымі талонамі, якія прыехалі ў нашу рэспубліку на адпачынак. Па вопыту папярэдніх выбараў, іх можа быць некалькі соцень.

Членамі выбарчых камісій стануць супрацоўнікі пасольства, консульства і ваеннаслужачыя. Папярэднія вынікі выбараў прэзідэнта Расійскай Федэрацыі на тэрыторыі Беларусі будуць вядомы позна ўвечары ў нядзелю.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

*Анатоль ВІШНЕЎСКІ:*

## «КІРАЎНІКУ ТРЭБА ДАВЯРАЦЬ»

**З дырэктарам прадпрыемства «Оршанафтапрадукт» Анатолем ВІШНЕЎСКІМ гутарыць карэспандэнт Іван СЦЯПУРА**

**Нядаўна ў ВА «Віцебскаблнафтапрадукт» прайшло пасяджэнне савета дырэктараў прадпрыемстваў нафтапрадуктаў Віцебскай вобласці з удзелам прэзідэнта канцэрна «Белнафтапрадукт» Антона Іванавіча Лойкі. Адным з галоўных пытанняў на савеце стаў нявернуты доўг калгасаў і саўгасаў вобласці за атрыманыя гаруча-змазачныя матэрыялы. Наш карэспандэнт звярнуўся з просьбай да дырэктара прадпрыемства «Оршанафтапрадукт» Анатоля Вішнеўскага з просьбай пракаменціраваць сітуацыю.**

— Сітуацыя з даўгамі, што ўтварыліся за выкарыстаныя гаспадаркамі нафтапрадукты, вельмі складаная і з кожным днём пагаршаецца. Калгасы і саўгасы ўжо маюць даўгі, што сабраліся на працягу двух гадоў, і не спрабуюць іх вяртаць. А сродкі гэтыя немалыя: ад 100 млн. да 1 млрд. рублёў у кожнага з даўжнікоў. Гэта сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Лёзненскага, Шумілінскага, Дубровенскага раёнаў. Крыху лепшыя справы ў гэтым плане ў Аршанскім раёне. У гэтай сітуацыі самае страшнае тое, што, калі размаўляеш з кіраўнікамі раёнаў, старшынямі калгасаў, дырэктарамі саўгасаў па пытаннях пагашэння даўгоў, дык усе яны ў адзін голас спасылаюцца на тое, што з Віцебскага аблвыканкома ідзе каманда не спяшацца разлічвацца за нафтапрадукты. Быццам бы атрымліваецца, што нафтавая галіна мае магчымасць субсідзіраваць сельскую гаспадарку. На самай справе, напрыклад, прадпрыемства «Оршанафтапрадукт» завінавацілася за паліва велізарныя сумы канцэрну «Белнафтапрадукт». Разлічыліся з ім узятым крэдытам у 2,5 млрд. рублёў. За крэдыт банк паставіў жорсткія ўмовы: кароткатэрміновы крэдыт — 1 працэнт, калі не выконваем узятыя абавязацельствы — стаўка павялічваецца ў два разы.

Калі так будзе працягвацца і далей, прадпрыемствы нафтапрадуктаў «пакладуць на лапаткі». Ужо сёння мы не маем магчымасці рэканструяваць і будаваць новыя аўтазаправачныя станцыі, а значыць не будзе і падатковых паступленняў у дзяржаўны бюджэт.

**— Анатоль Ігнатавіч, як вы лічыце, хто павінен заняцца вырашэннем гэтай праблемы, каб выправіць становішча з нявернутымі даўгамі?**

— У першую чаргу — урад. Я лічу, што ён павінен сабраць кіраўнікоў «вертыкалі», дэталёва вывучыць становішча спраў з даўгамі і прыняць рашэнне, каб яно не ўплывала адмоўна на развіццё сістэмы прадпрыемстваў нафтапрадуктаў.

Пры дзеючых цяпер забаронных законах і рашэннях, калі нешта адмяняюць, перарабляюць, а ўслед ідуць правяраючыя, якія адбіваюць жаданне працаваць нармальна. Так працягвацца больш не можа. І выйсце з гэтай сітуацыі я бачу наступнае: па-першае, трэба прыкласці намаганні ўсім галінам улады, каб заканадаўчыя акты працавалі, па-другое, трэба ўвесці адказнасць службовых асоб за прымаемыя рашэнні і паступова пераводзіць эканоміку на рынachныя адносіны. Я лічу, калі кіраўніку даверылі — трэба яму давяраць. А калі прадпрыемства развіваецца нармальна, спраўна, папаўняе дзяржаўную казну — кіраўніку трэба дапамагаць.

